# ІНФАРМАЦЫЯ

## аб парушэнні правоў грамадзянаў на атрыманне адукацыі ў беларускай мове

*(Заканчэнне. Пачатак на стар.1.)*

*настаўнікі раптам сталі прымушаць пісаць заявы на змену мовы навучання з беларускай на расійскую. У выніку доўгага жорсткага ўціску (у тым ліку і ў выглядзе тэлефонных званкоў дадому) частка бацькоў перапісвае свае папярэднія заявы, згадзіўшыся з пераходам на расійскую мову навучання… нязгодныя аказваюцца ў стане выгнанцаў на сваёй зямлі, якім фактычна паказваюць на дзверы…"*

Аб падобных выпадках пісала і прэса:

*"…у 1994 годзе я аддаў сваю Вераніку - жыхарку незалежнай Беларусі—у Менскую беларускую гімназію 103… Дзіцяці падабалася вучыцца там, і задоўга да восені яна рыхтавалася ў другі клас: ранец, кніжкі, бацінкі, гольфікі… І толькі прыйшоўшы ў другі клас, я даведаўся, што гэта ўжо не беларуская гімназія, і выкладаць тут будуць усё па-расійску… Як гэткае можа быць на маёй радзіме, у маёй краіне. Пры адной думцы аб гэткім прыніжэнні пачынае калаціцца сэрца і сціскацца кулакі. Гэта называецца "равными возможностями"? Гэта называецца "свабодным выбарам"?…".*

*Газета "Свабода", кастрычнік 1995 г.*

Бацькі, якія часта вялі шматмесячную барацьбу, у большасці выпадкаў дамагліся толькі частковага задавальнення сваіх патрабаванняў, таму што іх класы, звычайна, пераводзіліся на расійскую мову навучання, а дзяцей "няскораных" бацькоў збіралі ў адзін клас з усіх былых беларускіх. Некаторая частка бацькоў змушаная была забраць сваіх дзяцей з школаў і цяпер возяць іх у школы, дзе яшчэ не ліквідаванае беларускамоўнае навучанне. Гэта нябліскія школы. Многія ж бацькі проста не вытрымлівалі жорсткага ўціску і таго маральна-псіхалагічнага клімату ў школе, які ствараўся вакол іх дзяцей, і спынілі барацьбу.

Вось лічбы, што сведчаць аб ліквідацыі беларускамоўнага навучання. Больш 53% вучняў, якія ў 1994 годзе ў Менску вучыліся ў 1-х класах, за два апошнія гады пераведзеныя на расійскую мову навучання. 35% вучняў, якія ў 1994 годзе навучаліся ў другіх класах, пераведзеныя на расійскую мову. Падобныя ж лічбы і па іншых класах. У сталіцы Беларусі засталося дваццаць беларускіх школаў з агульнай колькасці 220 школаў.

У першую чаргу беларускамоўнае навучанне касуецца ў прэстыжных школах: гімназіях, спецыяльных англійскіх, фізіка-матэматычных, эканамічных. Такое катастрафічнае змяншэнне колькасці беларускамоўных вучняў — не стыхійная з'ява, а вынік мэтанакіраванай работы дзеля знішчэння беларускай школы.

Тэндэнцыя на знішчэнне беларускай школы пануе з невялікімі варыяцыямі па ўсёй краіне. Праз год пасля прыходу Лукашэнкі да ўлады ва ўсіх абласцях павялічылася колькасць школаў з расійскай моваю навучання, у тым ліку ў Гомельскай вобласці (з 14,5% да 60,3%), Віцебскай вобласці (з 18,3 да 42,7%), Магілёўскай вобласці (з 17,2% да 42,9%). У гэтых жа абласцях зменшылася колькасць школаў з дзвюма мовамі навучання: у Гомельскай вобласці (з 77,3% да 38,7%), Віцебскай вобласці (з 80,5% да 56,1%), Магілёўскай вобласці (з 80,7% да 55,1%).

У сельскай мясцовасці колькасць школаў з беларускай моваю навучання зменшылася на 91 школу, колькасць школаў з расійскай моваю навучання павялічылася з 67 да 219.

За мінулы 1996 год становішча беларускай школы яшчэ больш пагоршылася.

У табліцы даецца дынаміка прыёму ў першыя класы з беларускай моваю навучання (% ад агульнай колькасці дзяцей, што прыйшлі ў першыя класы) па абласцях за апошнія пяць гадоў (звесткі за 1996-1997 школьны год—неафіцыйныя, наша ацэнка).

| | 1992-1993 г. | 1993-1994 г. | 1994-1995 г. | 1995-1996 г. | 1996-1997 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| г. Менск | 48,3 | 58,6 | 58,0 | 19,5 | 11,0 |
| Берасцейская | 76,0 | 79,7 | 79,5 | 37,0 | 31,0 |
| Віцебская | 58,1 | 65,5 | 62,3 | 28,9 | 26,0 |
| Гомельская | 72,3 | 75,7 | 82,8 | 26,1 | 23,0 |
| Гарадзенская | 82,9 | 87,5 | 86,9 | 61,4 | 50,0 |
| Менская | 86,9 | 92,6 | 91,3 | 67,8 | 61,0 |
| Магілёўская | 53,0 | 72,8 | 65,1 | 25,8 | 23,0 |
| **Усяго** | **68,5** | **75,3** | **76,0** | **37,9** | **33,0** |

Што ж тычыцца сярэдняй спецыяльнай адукацыі і вышэйшай школы, дык у краіне няма практычна ніякіх магчымасцяў працягнуць адукацыю на беларускай. Сітуацыя тым больш парадаксальная, што большасць абітурыентаў, ад 50% да 80%, абрала для ўступных экзаменаў беларускую мову. Тыя нешматлікія факультэты, якія давалі магчымасць навучацца па-беларуску, пераводзяцца на расійскую мову. Дэканы, якія не падабаюцца цяперашнім уладам, здымаюцца з пасадаў: у Беларускім дзяржаўным універсітэце зняты з пасады насуперак волі выкладчыкаў і навуковай рады дэкан філалагічнага факультэта прафесар Плотнікаў, змушаны быў пайсці са сваёй пасады дэкан гістарычнага факультэта прафесар Шупляк.

У 1996 годзе не было выпушчана ніводнага падручніка на беларускай мове для вышэйшай школы па тэхнічных і іншых дысцыплінах. Запланаваныя раней да друку падручнікі зняты з планаў выпуску дзяржаўных выдавецтваў.

Каб дамагчыся права на атрыманне вышэйшай адукацыі на беларускай мове, у Беларусі пачаты масавы збор подпісаў грамадзянаў. Сабраныя дзесяткі тысячаў подпісаў.

З усяго гэтага бачна, што палітыка Лукашэнкі скіраваная на паступовае і поўнае знішчэнне беларускай мовы на яе спрадвечнай тэрыторыі. У сувязі з тым надзвычай цынічна прагучалі словы, сказаныя ім на святкаванні 75-годдзя Беларускага дзяржаўнага універсітэта: "Сегодня у нас созданы оптимальные условия для свободного и естественного развития белорусского языка и белорусской культуры".

Калі вас зацікавіць больш падрабязная інфармацыя, дык мы зможам яе прадаставіць.

*Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.*

**Пераклад з расійскай У. П.**

### *Меркаванні*

# Падпіска на газету — таксама патрыятызм

"Наша слова" надрукавала заклік аформіць падпіску на другі квартал. Напамін своечасовы. Што да мяне, то я неўзабаве рушыў у сваё паштовае аддзяленне, каб зноў далучыцца да сваёй культурна-асветніцкай грамады.

Дарэчы, у мяне "Наша слова" амаль ніколі доўга не затрымліваецца, выключэнне — толькі некалькіх першых цяпер ужо рарытэтных нумароў 1990 года. Прачытаўшы чарговы нумар "Нашага слова" сам, я яго затым дару знаёмым, а то і спецыяльна пакідаю ў людных месцах, прапаную ў аўтобусах. Каб людзі маглі пазнаёміцца ды зацікавіцца адзінай на Беларусі культурна-асветніцкай штотыднёвай беларускай газетай, якая пастаянна і прафесійна адсочвае працэсы культурнага карыстання такім унікальным нацыянальным багаццем, як слова.

Скажу непрыемнае і ў адрас суполкі ТБМ імя Ф. Скарыны ў Баранавічах. Але вельмі шкада, што суполка практычна анічога не робіць дзеля прапаганды "Нашага слова" ў горадзе і раёне. Я прапаноўваў актывістам суполкі правесці Дзень "Нашага слова", арганізоўваць нядзелі і дні падпіскі на яе, зрабіць газетную вітрыну, як гэта зрабілі камуністы з сваёй газетай "Товарищ". Маўчанне. Дзівіць, што і на рэдкія свае мерапрыемствы тут ніколі актывісты ТБМ не праводзяць выставак газеты "Наша слова" нават па матэрыялах пра Баранавічы і Баранавіччыну. Сп. З. Сіцька ў "НС" № 6 паведаміў пра вечарыну, прысвечаную памяці Тамаша Зана. Узяць хоць бы згаданую вечарыну, калі падводзіліся вынікі віктарыны, прысвечанай Тамашу Зану. Нічога пра публікацыі ў "Нашым слове". На падвядзенні ўручалі грашовыя ўзнагароды, кнігі, значкі. А маглі пераможцам уручыць і падпісныя квіткі на "Наша слова". Аб гэтым я яшчэ раней гаварыў сябру ТБМ В. Сырыцы, калі ладзілі вечарыну памяці Яна Чачота, дзе мне ўручылі безымянныя кнігі… Сырыца тады прамаўчаў. А шкада, што актывісты ТБМ у Баранавічах не клапоцяцца аб пашырэнні шэрагаў падпісчыкаў на "НС" Па сабе мяркую, колькі газета дае карыснага. Дарэчы, даўно ўважліва сачу за творчасцю такіх аўтараў "Нашага слова" як В. Выхота, І Крэнь, З. Сіцька, Л. Раманенка, А. Мікалайчанка, А. Яскевіч, М. Пузіноўскі, У. Панада і іншых, якія валодаюць асаблівай таемнасцю ўжывання слова, пішуць доказна і займальна. Сур'ёзную праблематыку ўмее ўзняць Ул. Асінавец (Ул. Ас.) і некаторыя іншыя аўтары.

Мне падабаецца шматколернасць і шматграннасць думак аўтараў газеты. Гэтай якасці ў афіцыёзных выданнях амаль не відаць. Як тут не ўспомніць словы Пімена Панчанкі з 1988 года:

*Мала ў Беларусі*
*Разумных гісторыкаў,*
*Якія любяць і ведаюць*
*Родную гісторыю.*

Разумных гісторыкаў у нас не паболела, як і змагароў за роднае слова, родную літаратуру, нацыянальную самасвядомасць. Больш вызначылася пярэваратняў, нават ніколечкі не саромяцца, калі ім гавораць аб гэтым. Дык спецыяльна для іх успомнім неўміручыя радкі Пімена Панчанкі з яго верша "Не адцураюся, не адракуся":

*І вас тупалобыя*
*Душыцелі мовы,*
*Бог пакарае.*
*……………………*
*Станеце зноў жыхарамі*
*Паўночна-Заходняга краю...*

Дык вось, сярод газет Беларусі, якія падтрымліваюць духоўнасць і годнасць народа, засталося няшмат выданняў. У іх шэрагу — "Наша слова". Гэты штотыднёвік, мабыць, сёння амаль ці не адзіны выразнік шчырай любові і павагі да роднага слова, нацыянальных беларускіх каранёў. То як жа яго не падтрымаць тым, хто шануе Маці-Беларусь.

**Міхась МАЛІНОЎСКІ, правадзейны член Геаграфічнага таварыства,**
г. Баранавічы.

*Культурна-асветніцкая штотыднёвая беларуская газета*
НАША СЛОВА
Our Word
Unser Wort
Naša Słowa

Падпісны індэкс 63865

ЗАСНАВАЛЬНІК: Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

Газета зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце Рэспублікі Беларусь па друку. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 83.

Рэдакцыйная калегія:
Эрнэст ЯЛУГІН — галоўны рэдактар

Лявон БАРШЧЭЎСКІ,
Янка БРЫЛЬ,
Анатоль БУТЭВІЧ,
Радзім ГАРЭЦКІ,
Ніл ГІЛЕВІЧ,
Вольга КУЗЬМІЧ,
Уладзімір ЛАМЕКА,
Уладзімір ПАНАДА,
Зміцер САНЬКО,
Здзіслаў СІЦЬКА,
Алег ТРУСАЎ,
Генадзь ЦЫХУН.
Адказны сакратар — Уладзімір АНІСКОВІЧ.
Кампутарны дызайн — Ірына ДЗІВІНА.
Кампутарны набор: Тамара АЎСЯННІКАВА, Вера ВАРАНЦОВА.
Тэхнічны рэдактар Валянціна КАРАТКЕВІЧ.
Карэктары: Жанна КАЗЛОЎСКАЯ, Генадзь КАЖАМЯКІН.

Адрас рэдакцыі: 220029, г. Менск, вул. Чычэрына, 1, 3-і паверх.
Тэлефон: 233-17-83.

Кампутарнае забеспячэнне пры падтрымцы Беларускага аддзялення Фонду Сораса.

### *Жыццё Таварыства*

# "...УСІМ, ХТО НАЗЫВАЕ

*Першую вышэйшую адукацыю Данат Яканюк атрымаў у кансерваторыі, якую скончыў у 1969 годзе. У 1971 годзе ён — скрыпач сімфанічнага аркестра — перайшоў у рэдакцыю музычных праграмаў Беларускага радыё, дзе займаў пасады рэдактара, старэйшага рэдактара і каментатара. У 1977 годзе паступіў у аспірантуру Інстытута этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі, потым працягнуў навучанне ў маскоўскім інстытуце мастацтвазнаўства, дзе ў 1982 годзе атрымаў дыплом сацыёлага і філосафа. Кандыдат філасофскіх навук. З 1984 года працаваў загадчыкам аддзела сацыялогіі Дзяржтэлерадыё Беларусі, з 1986 — намеснікам галоўнага дырэктара Дырэкцыі праграмаў БТ.*

*Але чытачам "Нашага слова" ён вядомы не як выканаўца класічнай музыкі ці чыноўнік тэлерадыёкампаніі, а як стваральнік і кіраўнік "Тэлесябрыны". Гэткую назву маюць і цыкл падрыхтаваных ім за апошнія гады тэлепраграмаў, і створаная работнікамі тэлевізіі каля пяці гадоў таму суполка ТБМ, якую ўзначальвае ён жа.*

*Прадстаўляем увазе чытачоў гутарку са сп. Д. Яканюком нашага карэспандэнта.*

**— Што прывяло Вас у Таварыства?**

— Усведамленне сваёй прыналежнасці. У 80-х гадах я, як і многія іншыя, задумаўся — хто я? Я выхоўваўся, вучыўся і жыў у расійскамоўным асяроддзі, але жыццёвы досвед, набытыя веды і праца гаварылі, што я, нягледзячы на тое, што гавару па-расійску, належу да іншай культуры — беларускай. Гадоў дзевяць таму я папрасіў калегаў і супрацоўнікаў: тыя, хто могуць, хай звяртаюцца да мяне па-беларуску. Нікога гэта асабліва не здзівіла, бо канец васьмідзесятых быў часам вялікіх зменаў, што закранулі ўсе сферы жыцця. Да таго ж, нашым тагачасным кіраўніком быў Генадзь Бураўкін, які шмат зрабіў для таго, каб беларуская тэлевізія мела беларускае аблічча і ў камуністычнай дзяржаве.

Калі стварылася Таварыства беларускай мовы, мы, яе прыхільнікі, увесну 1991 года зарэгістравалі сваю суполку ў тэлевізіі. Канешне, гэта быў нонсэнс — у дзяржаўнай арганізацыі ствараць суполку ў абарону нацыянальнай мовы. Але ў той хваравітай дзяржаве патрэба ў гэтым была. Таму на нашую суполку глядзелі нават, як на радыкальную апазіцыю Бураўкіну, якога да яе стварэння ці мала хто лічыў непатрабавальным у пытаннях мовы.

**— Якія мэты ставіла перад сабою вашая арганізацыя?**

— Найперш — стварэнне тэлепраграм і правядзенне праз іх ідэі адраджэння нашай мовы і культуры. Мы хацелі дапамагчы людзям усвядоміць іх прыналежнасць да адзінага народа, да яго спадчыны. Мы хацелі, каб людзі адчулі прыгажосць сваёй мовы.

**— Але ж вашыя праграмы ніяк не выглядалі на прапагандысцкія...**

— Я бачыў шмат спробаў агітацыі і прапаганды. Можна называць мову самай мілагучнай і самай прыгожай у свеце, можна спасылацца на класікаў літаратуры, дзеячаў культуры ці палітыкі — як колішніх, так і сучасных, якія ёй карыстаюцца... Але мы абралі іншы шлях. Мы імкнуліся паказаць вартасці нашай культуры, нашага мастацтва, асабістыя якасці людзей, якія з'яўляюцца іх стваральнікамі і адначасова — носьбітамі нашай мовы. Бо станоўчыя эмоцыі і прыхільнасць людзей выклікаюць не лозунгі і заклікі, а прыгажосць. Мы хацелі паказаць вартасці не проста мовы, а створанай у ёй культуры Беларусі. Мы імкнуліся выклікаць у людзей жаданне далучыцца да яе.

**— Як гэта выглядала?**

— У 1991-1992 гадах Беларуская тэлевізія ўпершыню дала эфірны час святу Калядаў. Тады гэта выглядала, як рэвалюцыя: тэлевізія, якая ўвесь час свайго існавання была часткаю дзяржаўнага прапагандысцкага апарату, у адзін дзень перайшла ад рэкламавання светлай камуністычнай будучыні да разгляду каштоўнасцяў хрысціянскай веры і народнай культуры.

Але першая сапраўды значная нашая акцыя адбылася на Дзяды наступнага 1992-га года. Кіраўніцтва ставілася да яе з пэўнай перасцярогаю і недаверам, але саступіла. І мы зрабілі дванаццацігадзінную тэлепраграму, якая ішла ад ранку да вечара. Нават тыя праграмы і інфармацыйныя выпускі, якія непазбежна перапынялі яе, мелі спецыяльныя падводкі, каб канцэптуальна ёй адпавядаць. Гэта было ўпершыню: адмысловая праграма, каля шасці гадзінаў наўпростага эфіру ў дзень, які яшчэ год таму не быў дзяржаўным святам і які пасля падзеяў 1988 года ва ўсіх выклікаў вельмі акрэсленыя асацыяцыі.

Разумееце, тысячы і тысячы людзей дагэтуль не толькі не хацелі і баяліся згадваць аб мінулым сваім і сваіх родных. Тысячы з іх не маглі нават пайсці ў царкву, каб паставіць свечку ў памяць аб памерлых ці без віны забітых. Гэтую справу ўзялі на сябе мы, і на нас абрынулася лавіна тэлефонных званкоў з усёй краіны. Потым гэтыя тэлефанаванні стварылі базу даследавання грамадскай думкі, якое таксама праводзілі мы.

У гэты дзень "Тэлесябрына" здолела ўпершыню не проста далучыць людзей да тэлеэфіру, але і злучыць іх, дапамагчы ім усвядоміць сваю прыналежнасць да адной супольнасці, зразумець, што лёсы іх ды іх сем'яў ёсць часткамі адзінай гісторыі нашага народа. Мы рабілі тэлемасты паміж студыямі ў сталіцы і розных рэгіёнах, удзельнікамі якіх рабіліся самыя розныя людзі. У эфіры гучала адпаведная гэтаму дню музыка розных жанраў — ад беларускага фальклору да еўрапейскай класікі. Мы рабілі ўсё, каб пазбавіць гэтае сумнае свята, агульнае для ўсіх, аблічча правінцыйнасці, вясковасці і паказаць людзям: Дзяды — частка еўрапейскіх традыцыяў у культуры Беларусі.

Потым былі іншыя праграмы, прымеркаваныя да іншых святаў народа, якія ў незалежнай Беларусі сталі дзяржаўнымі: Вялікадня, Калядаў. Але канцэпцыя іх захавалася: традыцыйнае мастацтва, публіцыстыка ды класічнае мастацтва — і ўсё гэта па-беларуску ў адкрытым эфіры.

З 1992 года стваральнікі "Тэлесябрыны" не маюць святочных дзён. У гэты час яны працуюць у адкрытым эфіры дзеля таго, каб ператварыць тэлегледачоў ва ўдзельнікаў адной падзеі, якая адбываецца ў іх на вачах і з іхнім удзелам, каб даць ім магчымасць выказаць свае думкі і пачуцці. Яны працуюць дзеля таго, каб людзі ля тэлевізійных экранаў адчулі сваю прыналежнасць да адзінай нацыі.

**— Ці чулі стваральнікі "Тэлесябрыны" крытыку ў свой бок?**

— Цяпер шмат гавораць аб нежаданні беларусаў гаварыць сваёй мовай і захоўваць сваю культурную адметнасць. Але тады было ўсяго некалькі званкоў з заўвагамі пра нашае нежаданне гаварыць па-расійску і абвінавачваннямі з гэтай прычыны ў нацыяналізме. Але ж гэта была нашая пазіцыя: беларуская дзяржаўная тэлевізія вядзе свае праграмы па-беларуску. Госці нашых праграмаў таксама гаварылі сваімі мовамі — англійскай, літоўскай, расійскай. Мы рабілі ім беларускі пераклад, і гэта выклікала не перашкоды разуменню праграмаў, а павагу да нашай мовы.

Калі ўжо гаварыць пра ацэнку дзейнасці нашай суполкі іншымі, дык давалі яе не толькі староннія людзі, але і кіраўнікі ТБМ. З іх боку былі захады да таго, каб мы ў сваёй працы больш увагі надавалі менавіта мове, яе прапагандзе і навучанню ёй. Магчыма, рацыя ў гэтым была — кароценькія сюжэты з тлумачэннем, напрыклад лексікі слоўніка Ластоўскага ці іншых старых выданняў, маглі б прыцягнуць цікаўнасць. Але ж мы не хацелі займацца дыдактыкай, тым больш, што перадачу, прысвечаную выключна мове — "Роднае слова", — ужо вёў Уладзімір Содаль. Замест агітацыі на карысць мовы ці навучання ёй мы імкнуліся ствараць беларускамоўныя праграмы, цікаўныя шырокаму колу гледачоў, нават для той большасці, якую не хвалявалі праблемы нацыянальнага адраджэння.

Нашая дзейнасць была сталым эксперыментам, напрацоўкай новага. У свой час мы рабілі серыю праграмаў "Імправізацыя апоўначы", "Будзьце з намі". Гэта быў сінтэз некалькіх відаў мастацтва: імправізацыі музычнай, відовішчнай — студыйнай з накладаннем знятых раней відэасюжэтаў, публіцыстычна-паэтычнай — у праграмах бралі ўдзел беларускія літаратары, мастакі, музыканты, палітыкі...

**— На Ваш погляд, плён з гэтага быў большы?**

— У нашым грамадстве існа-

**З нагоды**

# Перад мовай роўныя і біскуп, і селянін...

У сталічным Доме літаратара адбылася прэм'ера дакументальных фільмаў, адзін з якіх прысвечаны пісьменніку, грамадскаму дзеячу, былому галоўнаму рэдактару Беларускай энцыклапедыі Барысу Іванавічу Сачанку ("Апошні сон Барыса Сачанкі", аўтар сцэнарыя Г.Багданава, рэжысёр М.Князеў, аператар Л.Слобін), а другі, фільм-роздум, прысвечаны гістарычнаму лёсу беларускай мовы (аўтар сцэнарыя А.Лойка, рэжысёр і аператар Ю.Гарулёў). Фільмы гэтыя кароткія, па дзесяць—дваццаць мінут. Што ж удалося за такі час сказаць іх стваральнікам?

З успамінамі пра Барыса Сачанку ў фільме выступілі яго жонка Тамара Андрэеўна, браты Іван і Пятро, дачка Святлана, пісьменнік Максім Лужанін. Іван Іванавіч прыгадаў ваеннае дзяцінства, а менавіта той дзень, калі немцы палілі іх вёску Вялікі Бор разам з яе хворымі, пакалечанымі і старымі жыхарамі ("валіў чорны дым і пахла гарэлым мясам"), а ацалелае насельніцтва, у тым ліку і іх сям'ю, гналі да станцыі Васілевічы, адкуль у таварных вагонах павезлі ў Германію. У дарозе будучы пісьменнік ледзь не загінуў: азвярэлы немец хацеў яго зарэзаць. Гэты жудасны ўспамін ілюструюць не меней жудасныя кадры з нямецкай хронікі: навідавоку гарыць, палае адна са шматлікіх беларускіх хатыняў. Запомніўся і аповяд Тамары Андрэеўны пра мужа: як сустрэла яго ўпершыню на навагоднім вечары ва універсітэце. У студэнцкім асяроддзі ён выглядаў звычайным, простым і сімпатычным хлопцам. Яны адразу пасябравалі. "Душа Барыса заўсёды балела з-за бядотнага стану роднай мовы, — казала Тамара Андрэеўна. — У часы перабудовы з групай пісьменнікаў ён апантана працаваў над Законам аб мовах. Пасля расказваў, як на пасяджэннях ЦК даводзілася бараніць гэты закон ад тых беларусаў, што выступалі супраць яго прыняцця і якім рускія па нацыянальнасці чыноўнікі казалі: "Як гэта вы, беларусы, выступаеце супраць такога патрэбнага для вас закона!" Тамара Андрэеўна адзначыла, што Барыс Сачанка прадчуваў свой хуткі зыход з зямлі. У чэрвені, не чакаючы восені, ён абрэзаў свой сад, а ўначы сасніў, што з абрэзанага голля склаў вялікі лоўж, каб спаліць (адсюль і назва фільма: "Апошні сон Барыса Сачанкі").

Стваральнікі стужкі выкарысталі дакументальныя кінакадры, якія паказваюць пісьменніка ў час яго гутаркі з М.Лужаніным, пазнаёмілі гледачоў з сарака яго кнігамі, пры дапамозе фотаздымкаў нагадалі аб сяброўскіх сувязях з І.Мележам, В.Быкавым, Р.Барадуліным, Я.Сіпаковым, І.Чыгрынавым ды іншымі пісьменнікамі.

З'яўленне ў фільме "Ад прадзедаў спакон вякоў" другога вялікага беларуса Льва Міхайлавіча Шакуна выклікала ў гледачоў пачуцці вялікага шкадавання і разам з тым радасці ад сустрэчы з ім, жывым. Як і Барыс Сачанка, Леў Шакун заўчасна пакінуў сваё служэнне роднай культуры і пайшоў з жыцця повен няхдзейсненых задум. Падрыхтаванае ім для фільма незадоўга да смерці выступленне прагучала з экрана як запавет жывым: "Любіце, шануйце і беражыце родную мову!" "Для кожнага народа яго мова — найкаштоўнейшы скарб, — казаў Леў Міхайлавіч. — Тут ён знаходзіць вельмі многа карыснага для сваёй душы, тое, што яго кранае, хвалюе, таму што ў мове закладзена вялікая мудрасць, вялікая назіральнасць чалавека". Далей ён расказаў пра гістарычныя шляхі беларускай мовы, яе помнікі, напісаныя ад рукі, і помнікі-старадрукі, па багацці якіх Беларусь займае адно з першых месцаў сярод славянскіх культур; прасачыў пераход ад царкоўнаславянскай мовы, якой, прыкладам, карыстаўся Кірыла Тураўскі, на новую літаратурна-пісьмовую мову, якая склалася ў XIV — XV стагоддзях і дала нам Скарыну. Размову пра каштоўнасць і значэнне роднай мовы ў жыцці чалавека працягвалі пробашч касцёла св. Сымона і Алены Уладзіслаў Завальнюк, мастак Уладзімір Басалыга, настаўнік роднай мовы і дырэктар Гудзевіцкага музея Алесь Белакоз. І ў кабінеце навукоўца, і ў касцёле святара, і ў майстэрнях мастакоў, і ў вясковым музеі ішла гаворка на адну і тую ж тэму: захаванне і зберажэнне нацыянальнай мовы беларусаў. Выказваючы свае адносіны да праблемы, ксёндз Завальнюк цытаваў Яна-евангеліста ("напачатку было Слова. І Слова было ў Бога. І Богам было Слова"), а таксама пасланне св.Паўла да карынфіян, у якім гаворыцца аб значэнні роднай мовы для чалавека: "Бо калі я малюся на незнаёмай мове, то хоць дух мой і моліцца, але розум мой застаецца бясплодным". У пасланні сцвярджаецца, што пастыры павінны маліцца на роднай мове народа, бо інакш, "калі ты будзеш добраслаўляць духам, дык той, хто стаіць на месцы простага чалавека, як скажа "амінь"? Бо ён не разумее, што ты кажаш". Святар закрануў пытанне друку і друкарняў і адзначыў:"Бібліі на беларускай мове мы яшчэ не маем. Гэта ўсё кнігі, якія мы атрымоўваем з-за мяжы. І таму Слова Божае, калі яно будзе гучаць у сваёй велічы, чысціні, такой паўнаце беларускай мовы, яно прынясе нам радасць, яно будзе нас ачышчаць і мы тады таксама, як кожны народ у свеце — ці то ў Еўропе, ці то ў Афрыцы, ці то ў ЗША — адчуем гэту паўнату і веліч сваёй мовы. Няхай добры Бог дапамагае нам ва ўзрастанні духоўным, а Маці Божая мае нас і ўсю Беларусь у сваёй апецы". А.Белакоз спыніўся на пытанні вывучэння роднай мовы ў школе. На яго думку, спачатку дзяцей трэба знаёміць са словамі, якія называюць блізкіх асоб, навакольныя мясціны, вядомыя з'явы. Пачынаць знаёмства трэба са слоў *мама*, *тата*, назваў свайго сельсавета, сваёй рэспублікі, а тады ўжо звяртацца да слоў *Масква* або *Кіеў*. Вельмі натуральна, у працэсе экскурсіі па музеі, гучыць апавядане старога настаўніка пра гістарычны лёс роднай мовы, "на якой 500 — 600 год назад гаварылі ўсе — і біскупы, і сяляне".

Фільм "Ад прадзедаў спакон вякоў" атрымаўся лірычным і хвалюючым. Ён кранае прыгажосцю краявідаў, духоўнай прыгажосцю сваіх герояў — святара, вучонага, настаўніка, мастака, прыгажосцю роднага слова, якое гучыць з іх вуснаў і з вуснаў чытальнікаў мастацкіх тэкстаў, прысвечаных беларускай мове. Шкада толькі, што ў ім не згадана роля ТБМ імя Скарыны ў адраджэнні беларускай мовы на сучасным этапе. У абмеркаванні фільмаў прынялі ўдзел пісьменнікі і навукоўцы Г.Далідовіч, І.Саламевіч, А.Марачкін, В.Красней, М.Савіцкі, мастак У. Басалыга. Па першым фільме іх думкі зводзяцца да наступнай высновы: Добра, што з'явіўся фільм пра Сачанку, хай сабе і малюпасенькі. Ён — першая цаглінка ў стварэнні вялікага фільма пра жыццё і дзейнасць гэтага славутага беларуса, фільма, у якім будуць выкарыстаныя багаты фактычны і гістарычны матэрыял, яго публічныя выступленні, выступленні па радыё і тэлебачанні, дакументальныя стужкі, якія дазволяць нам убачыць і пачуць Сачанку ў шмат якіх сітуацыях. Сачанка працаваў на беларускі рэнесанс, які людзі будуць доўга помніць, а мы, яго прадстаўнікі, будзем працаваць на тое, каб гэты час вярнуўся. Сачанка стаіць на асобым уліку ў нашай нацыі, талерантнай і таленавітай, ён дбаў аб тым, каб беларусы перад сусветнай грамадскасцю выглядалі прыстойна і каб пашыралася іх мова і культура (Саламевіч, Марачкін, Красней). Асобная думка М.Савіцкага: фільму не хапае філасофскай заглыбленасці і мастацкага асэнсавання тэмы. Архіўныя матэрыялы тычацца толькі нямецкага боку, а гістарычная расійская і савецкая акупацыі абыдзены. Не паказаны адмоўныя з'явы партызаншчыны ў Другой сусветнай вайне.

Фільм пра мову абмяркоўваўся больш энергічна і прынцыпова. На думку А. Марачкіна, ён занадта ідылічны, спакойны, бесканфліктны. А нам патрэбен фільм-крык: "Мова гіне!" Ніл Гілевіч першы пракрычаў гэтыя словы. Пракрычаў ён іх і зараз, апублікаваўшы адкрыты ліст расійскай інтэлігенцыі. У фільме павінна ісці гаворка пра сучасны трагічны стан, у якім апынулася наша мова, пра тое, што яе цураюцца і Прэзідэнт, і яго чыноўнікі.

На думку М.Савіцкага, фільм разлічаны на інтэлігенцыю з рэзервацыі, "такую, як мы з вамі". Ён ставіць філасофскія праблемы, дэманструе цудоўныя пейзажы, а трэба, каб у ім просты чалавек убачыў сябе збоку і задумаўся, чаму ён такі. Трэба было паказаць у фільме знішчэнне беларускіх школ у рэспубліцы — пры Машэраве і цяпер, паказаць слёзы бацькоў, якія ў мінулым годзе змагаліся ў Менску за беларускія класы.

В.Красней ацаніў фільм добра. На яго думку, у мастацкім плане ён не выклікае пярэчанняў і абуджае эстэтычныя пачуцці, а па зместу адпавядае пастаўленай задачы: паказаць вытокі беларускай мовы і яе прыгажосць. "Прыгажосць уратуе свет, а фільм пра гэта", — падкрэсліў спадар Красней.

**Ірына КРЭНЬ.**

**Жыццё Таварыства**

# „...СЯБЕ БЕЛАРУСАМІ"

вала і яшчэ існуе нейкае ўзвышанае стаўленне да тэлевізіі, павага да яе. Людзі давяраюць таму, што бачаць на экране. Гэткім чынам абыякавай да ўсяго большасці мы даводзілі: існуе вялікая культура, маючая глыбокія гістарычныя карані. Беларушчына — гэта не толькі фальклор, ручнікі і крытыя саломаю хаты. Гэта — прыналежнасць да Еўропы. Веданне таго, што ў самай вядомай сваёй кнізе Рабле ў спісе найбольш уплывовых краінаў Еўропы згадаў і дзяржаву нашых продкаў, дае падставы ганарыцца сваім мінулым. "Мы — нашчадкі стваральнікаў гэтай дзяржавы", — стала паўтаралі і паўтараем мы у сваіх праграмах.

Увагу людзей, магчыма, прыцягнуць, не паўтараючы лозунгі, хаця б і такія актуальныя, як адраджэнне мовы і культуры, а прапануючы ім нешта такое, чаго не могуць прапанаваць іншыя. А такой мовы, такога мастацтва і такой яго трактоўкі, якія рабілі мы, не было больш нідзе.

Даследаваннямі плёну нашай працы я як сацыёлаг займаўся два з паловаю гады. Аказалася, аўдыторыя передачаў "Тэлесябрыны" была вельмі значнай: да трох з паловаю — чатырох мільёнаў гледачоў. Таварыства беларускай мовы, сябрамі якога мы з'яўляемся, ніколі не ахапляла сваім уплывам такую колькасць грамадзян нашай краіны.

**— Дзяржава падтрымвала ініцыятывы прадстаўнікоў грамадскай арганізацыі?**

— Скажам так: не, хаця і не стрымвала. Але я памятаю прыніжэнне, якое адчуў, калі хадзіў па кабінетах, жадаючы праводзіць нашыя праграмы праз каштарыс дзяржтэлерадыё. Сродкаў на рэалізацыю ініцыятываў "Тэлесябрыны" папросту не было.

**— Іх дало ТБМ?**

— Канешне ж, не. Таму даводзілася звяртацца да розных фондаў, камерцыйных фірмаў, рэклама якіх змяшчалася ў праграмах і якія аплачвалі ўдзел у праграмах выканаўцаў высокага класа.

**— Гэта стварала для Вас праблемы?**

— Мы, калі з энтузіязмам ладзілі ў адкрытым эфіры святочныя праграмы, дзейнічалі як работнікі дзяржаўнай установы ў імя дзяржаўных інтарэсаў. Але адначасова мы рабілі гэта і для сябе. Нашае жаданне аб'яднаць вакол "Тэлесябрыны" людзей, блізкіх поглядамі, было нашай прыватнай ініцыятывай. Мы хацелі прыцягнуць увагу іншых да эстэтыкі беларускай культуры, да месца ў ёй нашай мовы. Мы, ствараючы свой калектыў і свае праграмы, імкнуліся спрыяць таму, што называюць беларускім Адраджэннем. Але замест заняткаў творчасцю я мусіў займацца здабываннем грошай.

Іншыя праблемы стварала тое, што мы, работнікі дзяржаўнай тэлевізіі, мусілі кіравацца рэкамендацыямі кіраўніцтва, якія, па сутнасці, адлюстроўвалі ранейшы савецкі яго светапогляд. Але ж без спрыяльнага да сябе стаўлення тэхнічнага кіраўніцтва Дырэкцыі праграмаў існаваць нам было б зусім немагчыма. І тут нам дапамагла сфармаваная намі ж грамадская думка. І не думаю, каб калі-небудзь маглі быць скасаваныя перадачы, прыўрочаныя да падзеяў, якія адзначае кожны беларус. Таму мяняўся склад "Тэлесябрыны", пераглядалася яе канцэпцыя, але захавалася галоўнае: яе адкрытасць, яе еўрапейскасць і яе мова.

**— Чым займаецца вашая суполка цяпер?**

— На тэлевізіі мы вядзём два цыклы праграмаў. Першы — "Лёс мой і надзея" — прысвечаны праблемам сацыяльнай рэабілітацыі інвалідаў. Нягледзячы на тое, што з адраджэнскай тэматыкай ён не мае нічога агульнага, мы ў ім прапагандуем каштоўнасці беларускай культуры, самі карыстаючыся беларускай мовай і заахвочваючы да таго ўдзельнікаў нашых перадачаў. Другая нашая справа — працяг цыклу праграмаў, прымеркаваных да святаў — Дня Волі, Калядаў, Вялікадня ды іншых. Ёсць яшчэ адзін цікавы праект — "Беларусы ў свеце".

**— Ён прысвечаны эміграцыі?**

— Не. Гэта — спроба прапаганды нашай краіны ў свеце праз яе мастацтва. Тут нам ёсць чым ганарыцца: узровень нашых выканаўцаў класічнай музыкі нічым не горшы, чым у свеце. І мы ўжо здзейснілі некалькі сваіх задумак, напрыклад, наладзілі паездку камернага аркестра музычнага ліцэя пры кансерваторыі ў Германію. Запісаныя намі выступленні гэтага аркестра маглі бачыць тэлегледачы і Германіі, і Беларусі.

**— У падобных справах Вы выступаеце ў якасці прадзюсера?**

— Калі ёсць патрэба — так. Трэба разумець, што прапаганда нашай мовы і культуры — гэта не выключна барацьба з асіміляцыяй, наладжванне нейкіх грамадскіх акцыяў ці плач аб былой велічы ды цяперашнім заняпадзе. Наадварот, мы мусім дэманстраваць не сваю слабасць, а сваю волю, свае магчымасці. Мы мусім паказаць і сабе, і свету, што беларусы — людзі не толькі ў лапцях, а і ў смокінгах, якія жывуць тым, чым жыве ўвесь свет. Менавіта таму я паралельна з асноўнай сваёй прафесійнай і грамадскай дзейнасцю займаюся тым, што шукаю кантактаў з уплывовымі людзьмі і арганізацыямі, каб мець іхнюю падтрымку нашай справе. Так, з фірмаю "Bertelsmann" пачынаюцца перамовы з тым, каб з яе дапамогай наладзіць тут, у Беларусі, вытворчасць кампакт-дыскаў, аўдыё- і відэакасет як з нашым фальклорам, так і з запісамі выканаўцаў класічнай музыкі.

Бо я як музыказнаўца і сацыёлаг ведаю: творчасць таго ж "Палаца" — спалучэнне матываў фолк- і поп-музыкі — можа выклікаць цікаўнасць замежных слухачоў. Цікавым для замежжа будзе і наш аўтэнтычны фальклор, бо этнічная музыка як экзотыка набывае ў свеце ўсё большую папулярнасць. І гэты спіс можна працягнуць.

**— "Тэлесябрына" — суполка ТБМ. Але, слухаючы Вас, маеш уражанне, што ўсё, зробленае ёй, было хутчэй плёнам прыватнай ініцыятывы, чым выкананнем нейкіх праграмаў, распрацаваных ці фінансаваных Таварыствам...**

— Тое, што мы рабілі і робім, — праца прафесіяналаў і адначасова людзей, не абыякавых да беларушчыны. Таварыства дае нам хутчэй маральную падтрымку: мы, яго сябры, ведаем, што ёсць людзі, якім патрэбна тое, што мы робім. Таму сувязь "Тэлесябрыны" з ТБМ хутчэй ёсць сувязь людзей, духоўна блізкіх. Што тычыцца нейкіх праграмаў ці ўдзелу ў працы ТБМ, дык ужо больш за год я не маю ніякіх звестак з сядзібы арганізацыі, нас не запрашаюць да ўдзелу ў яе справах. Намі не цікавяцца, і нават на маю просьбу перарэгістраваць суполку я не атрымаў адказу. Але гэта не замінае нам рабіць сваю справу далей, бо яна прызначаная не выключна сябрам Таварыства, а ўсім, хто называе сябе беларусамі.

**Распытваў У. ПАНАДА**

**Чыталі?**

БЕЛАРУСКІ АРНАМЕНТ

Так называецца кніга, нядаўна выпушчаная з друку выдавецтвам "Беларуская энцыклапедыя". Гэтая кніга выйшла ўжо пасля смерці яе аўтара — доктара мастацтвазнаўства, прафесара Міхаіла Кацара (1906 — 1995), імя якога назаўсёды ўвайшло ў гісторыю беларускай навукі і культуры.

"Працы М.Кацара многім адкрылі вочы на тое, што мастацтва Беларусі, аказваецца, бярэ пачатак не з 1917 года, што ў яго старажытныя карані, еўрапейскі ўзровень і самабытныя нацыянальныя адметнасці... Вядома, пры сённяшнім узроўні навуковай думкі многія разважанні аўтара здадуцца досыць спрэчнымі", — напісана ў прадмове да кнігі.

Але спрэчнымі могуць падацца якраз гэтыя словы. Бо аўтарскія трактоўкі сабраных матэрыялаў займаюць у кнізе няшмат месца. Большасць жа яе старонак аддадзеная сабраным М.Кацарам у 1934 — 1941 гадах — у маладым яшчэ веку — выявам твораў традыцыйнага беларускага мастацтва і тлумачэнням іх зместу іх жа аўтарамі, якія ў той час мелі па 70 — 80 гадоў. Гэта азначае, што базай кнігі сталі творы народных майстроў, народжаных у сярэдзіне мінулага стагоддзя, тых, што захоўвалі традыцыйнае мастацтва ў выглядзе аўтэнтычным, свабодным ад чужых яму ўплываў.

**У.П.**

**Крымінал-дайджэст**

## Стрэл у акно кватэры рэдактара

Галоўны рэдактар газеты "Свабода" — фігура ў грамадскім жыцці нашай краіны прыкметная. Адны яго ненавідзяць і лічаць ажно падбухторшчыкам нейкай "дэстабілізацыі", другія паважаюць за прынцыповасць і цвёрдасць у адстойванні права чалавека на свабоду выказвання поглядаў і паўнату інфармацыі. Таму злавесны стрэл у акно кватэры Ігара Герменчука стаў не толькі аб'ектам увагі Менскага РАУС, але і многіх людзей па ўсёй Беларусі і нават за яе межамі.

Куля прабіла дзве шыбіны і прайшла акурат праз тое месца ў кватэры Герменчукоў, дзе журналіст звычайна садзіцца на кухні па вечарах, каб працаваць над рукапісамі, не перашкаджаючы адпачынку сям'і. Следчыя спрабуюць цяпер вызначыць, хто паслаў злавесную кулю. Сам Ігар Герменчук лічыць, што гэта чарговая спроба яго запалохання як галоўнага рэдактара газеты.

## Таксама запалохванне?

Дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га склікання і актыўны грамадскі дзеяч Анатоль Лябедзька таксама лічыць, што актам запалохвання з'яўляецца напад на яго і жорсткае збіццё двума бамбізамі вечарам у пад'ездзе дома, дзе ён жыве. Па словах А.Лябедзькі, аддзел унутраных спраў Фрунзенскага раёна г.Менска ўзбудзіў справу па факце нападу і збіцця.

## Ці адчыняць дзверы невядомым?

Практычна ці не ў кожным нашым мястэчку і горадзе апошнім часам здараліся выпадкі, калі нехта званіў у дзверы, яму адразу адчынялі, а ў выніку ў кватэру ўрываліся бандыты. Пра гэта не аднойчы пісалася ў газетах, але падобныя здарэнні адбываюцца зноў. Толькі ў пачатку гэтага года ў сталіцы міліцыя разбірае ўжо некалькі выпадкаў нападу на кватэры пасля званка. У Партызанскі РАУС звярнуўся работнік адной камерцыйнай фірмы, які легкадумна адчыніў дзверы візіцёрам, якія, пагражаючы гаспадару нажом і гранатай, забралі ў яго некалькі мільёнаў рублёў і кампакт-касеты.

У Цэнтральнае раённае аддзяленне міліцыі сталіцы з той жа бядой звярнуўся жыхар г.Томска, які знаходзіцца ў Менску па камерцыйных справах і па дамове здымаў кватэру. Яму таксама пазванілі ў дзверы, ён адчыніў і ўбачыў накіраваны на яго пісталет. У выніку застаўся жывы, але без грошай.

Вельмі часта пасля званка дзверы адчыняюць даверлівыя дзеці. У такім разе аграбленні адбываюцца самага разнастайнага кшталту, і добра яшчэ, калі самі дзеці не падвяргаюцца нападу.

## Ці не сам Бог дапамагаў

Шляхам пагроз чацвёра рэкеціраў са Слоніма прымусілі святара царквы вёскі Верхне-Чэрніхава Баранавіцкага раёна напісаць ім даўгавыя распіскі на 2200 амерыканскіх долараў. Потым, калі яны з'явіліся "выбіваць доўг", то былі непрыемна здзіўленыя наступным "знаёмствам" з супрацоўнікамі Камітэта дзяржбяспекі і міліцыі. Рэкеціры затрыманыя і заключаныя пад ахову. Баранавіцкім гарадскім аддзелам міліцыі ўзбуджаная крымінальная справа па прызнаках артыкула 93 КК РБ, праводзіцца следства, паведамілі з Цэнтра інфармацыі і грамадскіх сувязяў КДБ Беларусі.

Падрыхтаваў
**У. ВЕРАБЕЙЧАНКА.**

*Уражанні*

# ЗБЕРАЖОМ НАШУ СПАДЧЫНУ!

Кожны раз з хваляваннем слухаю чароўную мелодыю Ігара Лучанка на верш Янкі Купалы "Спадчына".

*"Ад прадзедаў спакон вякоў*
Мне засталася спадчына.
*Паміж сваіх і чужакоў*
*Яна мне ласкай матчынай".*

Для ўсіх шчырых беларусаў кожная дэталь у вершы мілая і дарагая, бо выклікае асацыяцыі з дзяцінствам ды і сталым узростам чалавека. Гэта "вясеннія праталіны, і лесу шэлест верасны, і ў полі дуб апалены". Будзяць успаміны аб Бацькаўшчыне "На ліпе бусел клёкатам", "і крык варонiных грамод"... Але ў сувязі з апошнімі палітычнымі падзеямі ўзнікае трывога за лёс і будучыню Беларусі, бо гэта пра яе тут пісаў паэт:

*"Завецца ж спадчына мая*
*Ўсяго Старонкай Роднаю".*

Усім нам трэба ўсвядоміць, што найвялікшы народны скарб — наша спадчына апынулася ў руках нібы чужакоў, далёкіх ад нацыянальнай ідэі адраджэння, мовы і культуры Беларусі. Чаму так сталася? Няма сумневу — не на карысць беларушчыне працуюць у вышэйшых структурах улады малавядомыя і зусім невядомыя людзі, а то і прыезджыя, чужыя. Дарэчы, пісьменнік Г. Далідовіч пацвярджае ўспаміны іншых, што Пётр Машэраў — тагачасны сакратар ЦК КПБ, сапраўды плакаў на пахаванні І. Мележа: "Хто ведае, можа і ў яго недзе ў глыбіні душы была кропля нацыянальнага пачуцця, дык ён разумеў, каго і што траціць Беларусь" ("Маладосць", № 2, 1996 г.).

Наўрад ці ёсць у многіх нашых вышэйшых кіраўнікоў такая нацыянальная кропля, аб чым сведчыць іхняя дзейнасць. Гэта непрыхільныя адносіны да беларускай мовы — не ўжываюць яе; варожыя да гістарычнай сімволікі — замянілі амаль былой савецкай; выціснулі актыўных патрыётаў-беларусаў з прававога поля за рамкі законнасці і прымусілі іх стаць апазіцыяй. А гэта лепшыя людзі нашага часу, знакамітыя творчыя работнікі, грамадскія і палітычныя дзеячы, у якіх ярка выражаная любоў да ўсяго нацыянальнага: мовы, гісторыі, культуры, традыцыяў, незалежнасці, дзяржаўнасці Беларусі. Таму яны маюць значную падтрымку ў той частцы грамадства, якая называецца беларусамі. Вось чаму пытанне нацыянальнай спадчыны сёння моцна трывожыць многіх з нас: ці надзейным кіруючым асобам народ яе даверыў праз рэферэндум і новую Канстытуцыю. Калі прыгадаць заяву А. Р. Лукашэнкі ў расійскай Думе аб гатоўнасці аб'яднання Беларусі з Расіяй на любых умовах, то словы трывогі Я. Купалы за будучыню нашай Радзімы будуць вельмі актуальнымі:

*"І ў белы дзень і чорну ноч*
*Я ўсцяж раблю агледзіны,*
*Ці гэты скарб не збрыў дзе проч,*
*Ці трутнем ён не з'едзены".*

Вось такое можа здарыцца пры нас.

**Міхаіл ПУЗІНОЎСКІ,**
**ветэран педагагічнай працы.**
г. Ашмяны.

# Веруем

*Да 2000-годдзя хрысціянства*

## Асветнікі

### 1. Ад берагоў Панцiйскіх

*"Святло навукі Хрыстовай дасталося ў Беларусь праз паўдзённых славян у IX — X сталецціях. Першымі апосталамі агульнаславянскімі зьяўляюцца святыя Кірыл і Мятод".*
***Кс. Адам Станкевіч.***

Праз нашую краіну здавён былі пракладзеныя гандлёвыя шляхі, пра што сведчаць кнігі арабскіх купцоў і падарожнікаў ды шматлікія знаходкі арабскіх, грэцкіх, рымскіх манетаў. І прапаведнікі Хрыстовага слова, пэўна ж, не абмінулі спрадвечнага, выпрабаванага гасцінца — плыні Барысфенавай-Дняпровай і Рубонавай-Дзвінскай, — які цяпер называюць "шляхам з варагаў у грэкі". Апроч Дняпроўска-Дзвінскага кірунку, было вядомае і адгалінаванне: па Прыпяці, Шчары, Нёмане. Гасцей на нашых абшарах было шмат. А скандынаўскія народы і плямёны, што жылі ў Прычарнамор'і, не кажучы ўжо пра грэкаў і рымлянаў, былі знаёмыя з Хрыстовай навукай. Дык можна меркаваць, што хрысціянскія місіянеры наведалі землі радзімічаў, дрыгавічоў і крывічоў задоўга да вядомага Хрышчэння Русі.

Першых хрысціянаў, якія жылі ў Рымскай імперыі, жорстка каралі за іх веру: палілі, забівалі на арэнах цыркаў, мучылі непасільнай працай на катарзе. На каменяломні паблізу Херсанеса (цяпер Севастопаль) быў высланы чацвёрты (па ліку) рымскі папа святы Клемент. У жорсткіх умовах катаргі ён апекаваўся нямоглымі ды падтрымліваў дух сваіх хрысціянскіх братоў, якіх там пакутавала каля дзвюх тысячаў. Нескаронага святога Клемента імператар Траян загадаў утапіць у моры. Гэта адбылося, як мяркуюць, у 97 годзе пасля нараджэння Хрыста. (Шмат стагоддзяў пазней і святому Марціну замянілі смяротнае пакаранне высланнем у Херсанес, дзе ён і памёр у 656 годзе).

І ў гарадах-калоніях, што былі заснаваныя грэкамі, пасяляліся хрысціяне. Прыкладам, у горадзе Тана, які знаходзіўся ля вусця Дона, ужо з палавіны IV стагоддзя меліся мітрапаліт і епіскапы. Былі святары і ў іншых крымскіх гарадах. Ужо ў 325 годзе на Нікейскім саборы ўдзельнічаў адзін Баспорскі (цяпер Керч) епіскап. Іншы епіскап гэтай жа епархіі загінуў у 358 годзе ў Нікамедыі пад руінамі бажніцы, разбуранай землятрусам. На Канстанцінопальскім саборы 360 года прысутнічаў гоцкі епіскап Ульфіла, а ў 381 годзе — Херсанескі епіскап.

З'яўленне першых хрысціянаў на Крыме даследнікі звязваюць і з асяленнем там готаў, якія прыйшлі туды (дарэчы, праз нашыя землі) з паўднёвай Скандынавіі, дзе, як вядома, ёсць востраў Готланд. З гоцкімі набегамі на Бізантыю ў III стагоддзі звязваў пачаткі хрысціянства на Крыме славуты французскі рэлігійны гісторык Л. Дзюшэн. З паходаў у Малую Азію готы прыводзілі палонных, сярод якіх было шмат хрысціянаў. Яны і пачалі распаўсюджваць Хрыстовую навуку на чужбіне. У ліку палонных былі і святары, якія ўтварылі першыя суполкі, а таксама і першыя іерархічныя ўстановы.

З сям'і палонных кападакійцаў паходзіў і згаданы гоцкі епіскап Ульфіла. Як адукаваны чалавек, ён з пасольствам гоцкага караля трапіў у Канстанцінопаль. Там яго заўважылі прыдворныя епіскапы бізантыйскага імператара і высвяцілі яго на епіскапа над готамі. Дома Ульфіла шчыра ўзяўся далучаць гоцкі народ да рымскай і хрысціянскай цывілізацыі. Ён склаў алфавіт, які паспяхова замяніў старое рунічнае пісьмо і пераклаў на гоцкую мову бальшыню кніг Святога Пісання. Былі ў епіскапа Ульфілы і шчырыя памочнікі.

Л. Дзюшэн паведамляе, што ў Скіфію (а гэта Ніжняе Прыдняпроўе) бізантыйскім імператарам Канстанцінам былі высланыя некалькі месапатамскіх аскетаў. Старэйшым над імі быў нейкі Аўдэй (амаль беларускае імя!). Аскеты былі вельмі актыўнымі людзьмі. Іх захапіла ідэя далучыць да сваёй веры мясцовых жыхароў, у тым ліку і готаў. І яны шмат зрабілі дзеля хрысціянізацыі Крыма, пабудавалі некалькі кляштараў.

Цягам часу ўсё больш і больш готаў прымалі хрысціянства. Кароль Германарых нават спалохаўся, бачачы, як ягоныя падначаленыя і нават таварышы пераймаюць рэлігію ворага — рымлянаў. Ён загадаў усім місіянерам, у тым ліку Ульфілу і Аўдэю, сысці з краіны. Аскеты Аўдэя вярнуліся ў сваю Месапатамію, а Ульфіла атрымаў дазвол пасяліцца ў Ніжняй Мізіі, што ля сучаснага Нікапаля. То быў 349 год.

Некаторыя даследнікі звязваюць распаўсюджанне Хрыстовага вучэння на Крыме і ў Паўночным Прычарнамор'і з палітычнымі змаганнямі ды намерамі бізантыйскіх імператараў. Яны, маўляў, свядома кіравалі туды місіянераў, каб праз хрысціянізацыю нейтралізаваць супернікаў, а менавіта крымскіх готаў, хазараў, а пазней таксама і русаў. Нам жа дастаткова знаць, што вучэнне Хрыстова знаходзіла сабе дарогу да народаў, якія жылі на поўнач ад Понта. На зыходзе VIII стагоддзя бізантыйскі патрыярх спрабаваў аб'яднаць царкоўныя іерархіі хазарскіх хрысціянаў пад уладай мітраполіі ў крымскім горадзе Даросе. Але 7 так званых гоцкіх епархіяў, заснаваных ім, распаліся праз некалькі гадоў. Даўжэй праіснавала толькі Баспорская архіепіскапія.

**Здзіслаў СІЦЬКА.**
*(Працяг будзе.)*

*Цудадзейныя абразы*

## Васількаўская ікона Божай Маці



Паблізу Беластока, у мястэчку Васількава быў яўлены цудадзейны абраз, які таксама адносіцца да іканаграфічнага тыпу "Змякчэнне злых сэрцаў" ці "Сімяонава прароцтва". На іконе Багародзіца слёзна моліцца, і, паводле прароцтва Сімяона Багапрыімца, Яе святыя грудзі працінае меч пакутаў і скрухі сардэчнай. Цнатлівым поглядам, поўным святой чысціні і высакароднасці, якія ўвенчаныя каронаю Божай абранасці, "Васількаўская" ікона родніцца з іканаграфічным тыпам "Уміленне", у прыватнасці, "Вострабрамскім Віленскім" цудадзейным абразом Багародзіцы, які ўшаноўваецца вернікамі таксама напярэдадні Ражства Хрыстова і Новага Года.

Паводле старадаўняга падання, з сярэдзіны XV стагоддзя ваколіцы беларускага горада Васількава былі скрозь у лясных гушчарах. У гэтым лесе пакінуты павадыромдзяўчынкаю без ежы і прытулку маліў Царыцу Нябесную аб дапамозе гаротны старац Васіль. Нарэшце, змучаны, ён заснуў. У празрыстым сне ён пабачыў Божую Маці, якая, суцяшаючы яго, сказала: "На тым месцы, дзе ляжыш, рассунь рукою лісце, раскапай пясок — і знойдзеш ваду; ёю прамыеш вочы, веруй — і ацалішся". Усё гэтак і здарылася, нягледзячы на тое, што выспа-холм узвышалася над узроўнем ракі Супраслі. Па словах Божай Маці, вада з'явілася на самай вяршыні выспы. Хворы стаў відушчым і ўбачыў перад сабою дакладную выяву сваёй Уратавальніцы. І яўленай яму іконе быў зроблены часовы храм-каплічка; паслушнік Васіль вырашае ўсё сваё жыццё прысвяціць Царыцы Нябеснай.

У царкоўных метрыках гэтая драўляная царква называецца "Святая Вада". Адбудаваная яна была за адзін тыдзень у 1719 годзе супрасльскім папяровых спраў майстрам Васілём, які страціў зрок, але ў сне яму было прадказана, што ён атрымае ацаленне пасля малення перад іконаю Божай Маці ў мястэчку Святая Вада. Васіль усё выканаў і ацаліўся, усё гэта здарылася ў дзесятую пятніцу пасля Вялікадня. Ацаляльная крыніца была пакінутая пры царкве. У 1864 годзе, у скрусе за бязвінных ахвяраў паўстання, замест старога драўлянага храма была пабудаваная каменная царква.

Цудадзейная ікона знаходзілася ў алтары і выносілася на сярэдзіну храма ў час малебнаў.

Захаваліся лірніцкія і багамольскія песні, прысвечаныя мясцоваму ўшанаванню гэтай цудадзейнай іконы.

## Пухлаўская ікона Божай Маці

Цудадзейны Пухлаўскі абраз належыць да выяў свята Пакрова Божай Маці. Гэты іканаграфічны тып узнік з класічнай сцэны Узнясення, адтуль перайшла і поза-пастава Багародзіцы ў ракурсе з узведзенымі рукамі.

Старажытнейшая з беластоцкіх пухлаўская парафія ўзнікла недзе каля 1500 г.

Пра яе ўзнікненне захавалася прыгожая легенда. Адзін няшчасны чалавек вельмі пакутаваў ад апухлых ног. Жыў ён пад ліпаю у кволай драўлянай пабудове. Аднойчы, звяртаючыся да Госпада з гарачымі малітвамі, ён прыкмеціў на старой ліпе ікону Божай Маці ў ззянні, зусім як жыровіцкія пастушкі ікону "Уміленне" на грушы.

Сваім цудадзейным ацаленнем ад пухліны няшчасны пакутнік даў назву мястэчку. Цудадзейная ікона (на месцы яе з'яўлення была пабудаваная царква ў 1580 г.) стала прадметам ушанавання шматлікіх пілігрымаў, багамольцаў, лірнікаў. Ацэленыя людзі свае ахвяраванні вешалі на сцяне храма каля іконы і запісвалі сведчанні пра час і факты ацаленняў (1646 г., 1710 г., 1732 г., 1812 г., 1830 г., 1855 г. і інш.). Першы пухлаўскі храм існаваў да 1755 г. Аднаўленне царквы пасля пажару было распачатае нараўскім старастам Янам Вільчэўскім у 1756 — 1769 гг. Пасля пажару XVIII ст. новая царква адбудоўваецца ў 1768 г. Чарговыя рэканструкцыі (1852, 1864 гг. і інш.) цалкам змянілі выгляд храма. Цудадзейная ікона мела пазалочаную рызу, багаты раслінны арнамент, пасля рэстаўрацыі цудадзейную ікону змясцілі злева ад іканастаса. З сярэдзіны XIX ст. у Пухлаўскай парафіі існавала шмат і царкоўна-прыхадскіх школаў.

Захаваўся народны верш-услаўленне Пухлаўскай іконы XVI — XVII стст.

**Алена ЯСКЕВІЧ.**

### Гімн да Пухлаўскай іконы Божай Маці

**(Народны верш з XVI — XVII стагоддзяў)**

Ты, Маці, з'ўлялася ўсюды —
І наш край спазнаў Твае цуды—
У Пухлаўскім сведчаць прыходзе,
Што літасць Твая жыве ў народзе.

У Пухлах з'явілася святая ікона —
Маці Божая стала нам абаронай.
Ты, Прачыстая, нашы Пухлы ўзлюбіла
І цудамі іх па свеце ўхваліла.

Часта Гасподзь караў за грахі людскія —
Заразы, хваробы спасцігалі злыя
І не было нідзе аховы надзейнай —
Як толькі ў малітве ля іконы цудадзейнай.

А хто шчыра да Цябе звяртаўся, —
Той ад бяды ўсялякай збаўляўся,
Бо сваім амафорам Ты нас пакрывала —
Ад пошасці, мору ўсіх ратавала.

Доказ таго — сляды чалавечай падзякі:
У храме падсвечнікі, падвескі і іншыя знакі
За безліч ласкі, што ўсім спасылаеш,
Аздараўленні многія, што ўсіх надзяляеш.

Пакроў Твае Пухлаўскай святыні
Спрадвечна ўслаўлялі і мы славім ныне.
Здаўна падаем у зямным паклоне —
Прыносім пашану Пухлаўскай іконе.

Каб Літасцівая ад бяды ратавала —
Ад марнае смерці ўсіх нас захавала.
І ва ўсе часы будзем благаці:
Ніколі не пакінь нас, Усяслаўная Маці,

Мірам ахіні нашу дзяржаву,
Спашлі ёй удачу, спашлі і славу.
Суймі варожых, прытры ім рогі,
Суціш ганарыстых, скары іх пад ногі.

Брацтву, папячыцельству спашлі збаўленне,
Веры хрысціянскай нястомнае служэнне.
Братамі роднымі няхай усе мы станем
І спрачацца ў рэлігійных справах перастанем.

А ўсім дазволь прыстойна век пражыць
І Цябе чула ў Пухлах прасіць:
Заўсёды пакрывай нас Сваім амафорам
З усімі святымі і ангельскім хорам.

**Са старабеларускай на сучасную мову пераказаў Мікола ГАЙДУК.**

## "Усё ў руках Божых"

Некалькі стагоддзяў побач з беларусамі і прадстаўнікамі іншых нацыяў жывуць у нашай краіне габрэі. Займаліся яны дробным гандлем, рамесніцтвам, але было сярод іх нямала філосафаў, тэолагаў, якія атрымлівалі адукацыю ў вядомых на ўвесь свет школах-ешывах у Вішневе, Любавічах і іншых месцах Беларусі. З асяродку беларускіх габрэяў выйшлі вядомы навуковец тэолаг рабін Гальперын, дзяржаўныя дзеячы Ізраіля Голда Мэір, Шымон Перэс і шмат іншых выбітных асобаў.

У гады камуністычнага панавання тэрор не абышоў бокам і юдэйскія абшчыны. Разам з цэрквамі і касцёламі зачыняліся і сінагогі, а рабінаў, як і святароў іншых канфесій, чакаў шлях у Сібір ці ў Курапаты.

Апошні менскі рабін Мэнахім Мэндль Глускін быў арыштаваны НКУС у 1930 годзе, і лёс яго дагэтуль застаецца невядомым. На працягу некалькіх дзесяцігоддзяў вернікі-юдэі былі вымушаныя дзейнічаць фактычна ў падполлі. Таму многія з іх пры першай жа магчымасці пакідалі БССР і выязджалі на сталае месца жыхарства ў Ізраіль, Амерыку ды іншыя краіны. Асабліва масавая эміграцыя назіралася ў 80-я гады пасля абвяшчэння кампартыяй так званай перабудовы. І ў першую чаргу ехалі найбольш нацыянальна свядомыя людзі, якія пачувалі сябе юдэямі. Наогул габрэі не падзяляюць рэлігійнае і нацыянальнае на два складнікі сваёй свядомасці. Кожны вернік-юдэй з'яўляецца добрым патрыётам сваёй нацыі. Але ўсе выехаць, натуральна, не маглі. І на пачатку 90-х гадоў габрэйскія рэлігійныя абшчыны сутыкнуліся з праблемамі недахопу рабінаў, літаратуры і г.д. У той час многія габрэйскія рэлігійныя арганізацыі свету пачалі накіроўваць у Беларусь сваіх прадстаўнікоў з мэтай ажыўлення рэлігійнага жыцця ў мясцовых абшчынах.

Асабліва моцную дзейнасць распачало сусветнае таварыства хасідаў любавіцкай духоўнай ешывы. Яго прадстаўнік рабін Раф Грузман з Амерыкі разам са сваёй жонкай Тамарай ужо некалькі гадоў працуе ў менскай сінагозе. Наша мэта, гаворыць рабін Грузман, даць людзям і асабліва дзецям тое выхаванне, якое яны не змаглі атрымаць ад сваіх бацькоў у мінулыя гады. Для гэтага ў кожнай сінагозе арганізоўваюцца школы вывучэння традыцый, гісторыі і культуры габрэйскага народа, каб у кожнай з 25 існуючых у Беларусі рэлігійных абшчын людзі маглі жыць паўнавартасным нацыянальным жыццём. На думку спадара Грузмана, ужо ёсць першыя вынікі яго работы.

На святы Пэсах і Ханука ў менскай сінагозе збіралася ад 300 да 400 вернікаў, праўда, у іншых абшчынах ёсць цяжкасці, але рабін спадзяецца, што яны пераадольныя. Зараз ён вядзе перамовы з рознымі юдэйскімі рэлігійнымі таварыствамі і духоўнымі універсітэтамі для таго, каб заахвоціць прыехаць на сталую працу ў Беларусь як мага большую колькасць адукаваных рабінаў.

Розныя габрэйскія рэлігійныя ўстановы дапамагаюць сваім братам у Беларусі духоўнай літаратурай, кашэрнай ежай і іншымі атрыбутамі, неабходнымі для нармальнага функцыянавання абшчынаў. Мінулым летам менскія юдэі пры дапамозе замежных фундатараў наладзілі дзіцячы летнік, у якім адпачывала 150 дзяцей, гаворыць спадарыня Тамара Грузман. За некалькі тыдняў дзеці навучыліся асновам габрэйскага жыцця, што яе вельмі цешыць, бо гэта гаворыць аб тым, што многія людзі пачынаюць шукаць свае нацыянальныя карані. Па словах рабіна Грузмана, у бліжэйшых планах вернікаў менскай абшчыны ёсць задумка пабудаваць вялікі габрэйскі культурны цэнтр з бібліятэкай, рэлігійнай навучальнай установай і іншымі аб'ектамі культурнага жыцця.

А наогул, гаворыць рабін Грузман, усё ў руках Божых, і калі будзе для людзей яго ласка, усе астатнія праблемы вырашацца.

**Міша КАЦ.**



*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*

*Францішак Багушэвіч.*

Ствараем энцыклапедыю "Новай зямлі"

# Суседскія пераклады

(Заканчэнне.)

З малымі дзецьмі — малы клопат... Гэта нашая прымаўка згадваецца, калі чытаеш лісты Якуба Коласа да маскоўскіх перакладчыкаў. Пераробкі і рэдагаванне забралі шмат часу, неабходнага для завяршэння іншых твораў, для ажыццяўлення іншых задумаў. "З зямлёю клопат быў вялікі", — чытаеш гэтыя радкі і разумееш, чаму кавалак апошняга раздзела, а менавіта радкі 81 — 101, як згадваецца ў каментары да паэмы, у выданнях 1923, 1927, 1934, 1941, 1946 гадоў адсутнічаюць. Якуб Колас напісаў іх пасля, калі зведаў, што ягонае дзіцятка, паэму "Новая зямля", не вельмі любілі. Адным яно было незразумелым, непатрэбным, як і тыя дзівакі-героі, што праглі свае зямлі. Другім яно было зусім чужое — кулацкае. Трэція наогул ненавідзелі яго, як толькі могуць ненавідзець людзі, зайздросныя таленту іншых. Усё разумеў паэт, таму і дадаў радкі:

*Вандруеш, бы ў той Чартавіцы;*
*Ці дурань сам, ці ўсе дурніцы,*
*Ці проста кпяць з цябе, дурнога...*

Але, як ужо згадвалася, на жыццёвым шляху нашага народнага песняра сустракаліся і сапраўдныя сябры ці проста шчырыя, сумленныя людзі. Адным з такіх быў паэт і перакладчык Пётр Андрэевіч Сямынін. У лістападзе 1949 года, калі ўжо ў Менску выйшла "Новая зямля" ў расійскім перакладзе, Якуб Колас пісаў яму: "Мой мілы і ў трэцяй ступені дарагі мне Пётр Андрэевіч, прасты, харошы чалавек! У сувязі з Вашым "катаржным" знаходжаннем на Беларусі, калі Вы самаахвярна працавалі над зводам перакладаў "Новай зямлі", а ў сапраўднасці самі гэтыя пераклады ажыццявілі, справілі, дапоўнілі, тое-сёе адкінулі, я хачу з пачуццём глыбокай да Вас удзячнасці сказаць Вам: "Вялікі Вам дзякуй за Ваша харошае чалавечае сэрца, за Вашу дапамогу мне. Людзі, я гавару пра нашых беларусаў, так-сяк запазнаных з Вамі, — у адзін голас гавораць — цудоўны чалавек, харошы, сціплы, цудоўны перакладчык і паэт Пётр Андрэевіч Сямынін! І гэта сапраўды так.

Не прыміце гэтыя мае словы за пахвальбу: далі-Бог, я так адчуваю і так кажу, таму што гавару ад шчырага сэрца паэта-беларуса".

Дарэчы, супрацоўніцтва Якуба Коласа з Пятром Сямыніным не ад "Новай зямлі" пачыналася. За некалькі гадоў да гэтага (як вынікае з ліста Міхасю Лынькову ад 11 кастрычніка 1947 года) у Маскве рыхтавалі выданне Коласавай паэмы "Рыбакова хата". Пераклад даручылі тром паэтам. Апроч Пятра Сямыніна, перакладчыкам меўся быць і С. Гарадзецкі. Але з ягоным чытаннем новай паэмы Якуба Коласа адбывалася далей тое ж, што і з "Новай зямлёй". Пётр Сямынін жа і тады справіўся лепш за іншых. Неўзабаве пасля заканчэння працы над "Новай зямлёй", калі яна ўжо была ў наборы, у лісце С. Гарадзецкаму наш паэт згадаў: "Сёння атрымаў ліст ад Сямыніна. Між іншым, паведамляе, што "Рыбакова хата" ўжо звярстана і, магчыма, выйдзе сёлета, што пра самую паэму і яе пераклады рэцэнзенты далі водгукі."

У лісце самому П. Сямыніну з санаторыя "Барвіха" Якуб Колас пісаў: "Тут адпачывае С. Я. Маршак. Я падараваў яму "Хату рыбака". Ён мне гаварыў, што Вашыя пераклады самыя лепшыя, што, не заглядваючы ў змест, ён беспамылкова пазнае раздзелы, перакладзеныя Вамі".

Падрыхтоўкай перакладу "Новай зямлі" сяброўства з Пятром Сямыніным не скончылася. Ён прыклаў руку і да з'яўлення на расійскай мове "Сымона-музыкі". Якуб Колас паведамляў, як ідуць справы з выданнем, турбаваўся пра стан здароўя "дарагога Пятра Андрэевіча", цікавіўся і спадзяваўся, што яму дадуць кватэру, дзяліўся планамі.

**Здзіслаў СІЦЬКА.**

***Жывое слова***

# Арап

З малых гадоў чуў: "Ногі, як у арапа" — гэта значыць, вельмі брудныя, чорныя, закарэлыя. Яшчэ пра такія ногі казалі: "Хоць рэпу сей".

Даўней усе дзеці на вёсках — дый, пэўна, і ў малых гарадах і мястэчках — цэлае лета бегалі босыя, бегалі па лужах, мясілі гразь, то і іхнія ногі скрозь былі закарэлыя, чорныя, як зямля. І, мабыць, больш дакладнага азначэння пра такія ногі і нельга было прыдумаць. Але чаму "як у арапа"? Калі малы быў, думаў, што арап — гэта негр. А калі так, то ўсё зразумела, чаму ногі ў таго ці іншага хлапчука, як у арапа. А калі пачаў у школу хадзіць і пачуў выслоўе: "арап Пятра Вялікага", дык чамусь і зусім задаволіўся. Мне падалося, я знайшоў адказ на сваю цікаўнасць. Але далей-болей: пачаў цікавіцца, ці ёсць слова "арап" у нашых слоўніках. І найперш, у беларускіх. Чаму ў беларускіх? Ды таму, што пачуў найперш гэтае слова ў мове свайго народа. У "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" вычытаў: "Арап — ашуканец, жулік". Гэта было адзінае тлумачэнне слова "арап". Іншых значэнняў слова "арап" у тлумачальным слоўніку не было. Але такое тлумачэнне мяне не задавальняла. Яно не давала ніякага адказу пра выток выслоўя "ногі, як у арапа".

Пры тлумачэнні не было і прыкладу з нашай моўнай практыкі. Гэта азначала, што слова ці мала вядомае ў роднай мове, ці мала ўжыванае. Праўда, слова было праілюстраванае ўстойлівым словазлучэннем "браць на арапа", што азначала "браць ашуканствам, падманам". Але гэтае словазлучэнне і яго тлумачэнне з іншай песні, з іншай оперы. Мне ж хацелася спазнаць, чаму брудныя ногі калісь параўноўвалі з арапавымі. Пэўны адказ на сваё пытанне знайшоў у слоўніку Уладзіміра Даля. Там у першым томе гаворыцца: "Арап — з прыроды, з племя чарнаскурых, чарнацелы чалавек з спякотных краін, ... негр".

Вось гэтае тлумачэнне і дае адказ, чаму нашыя дзяды і прадзеды брудныя, закарэлыя ногі параўноўвалі з арапавымі. Слова "арап" з значэннем чарнаскуры, цёмнай скуры чалавек зафіксаванае і ў слоўніку Ожэгава. Але чаму не зафіксавалі згаданае слова ў гэтым значэнні ў нашым тлумачальным слоўніку? Падалося, — а яно, як пасля высветлілася, так і было, — слова "арап" не патрапіла ў картатэку, яго не "распісалі". У беларускіх мовазнаўцаў не было пад рукой і прыкладаў з жывой мовы. А я сведчу: на Жлобіншчыне даўней вельмі часта карысталіся азначэннем "ногі, як у арапа".

... Цяпер дзеці мала бегаюць босыя, ім не дазваляюць бегаць па лужах, мясіць гразь. Ногі цяперашніх дзяцей чысцютка белыя, хіба адно трохі прыпыленыя. То і выслоўе "ногі, як у арапа" рэдка чуваць. А даўней ім вельмі часта карысталіся, бо і жыццё ў дзяцей было іншае.

Паміж іншым, слова "арап" з значэннем чарнаскуры, цёмнай скуры чалавек, негр занатавана ў нашых этымалагічным, гістарычным і новым перакладным руска-беларускім слоўніках, але зноў жа без прыкладаў з жывой мовы ці якіх іншых літаратурных крыніц. Паводле "Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы" слова "арап" найбольш верагоднае з цюркскай, дзе вядомае ў значэнні негр. Беларускае пазычана з турэцкай ці крымска-татарскай, праз украінскую, менш верагодна — праз расійскую. У старых беларускіх помніках слова "арап" сустракаецца з канца XVI стагоддзя.

Напісаўшы гэтую нататку, прачытаў яе маме. Яна, выслухаўшы, дадала: "Летам босыя хадзілі даўней не толькі дзеці. Усе хадзілі басяка і багата ў каго ногі былі, як у арапа". Гаварылі і так: "Ходзіць, як арап". Але чаму так казалі, я сказаць табе з гісторыі не магу. Але так казалі — гэта праўда".

Пакуль я абсмоктваў свайго "арапа" з усіх бакоў, так і гэтак, раптам прыгадаў, што гэтым словам аднойчы пакарыстаўся і Францішак Багушэвіч. У ягонай баладзе "Хцівец і скарб на Святога Яна" чытаем:

*Калі ж наляцелі калмыкі, арапы,*
*Шаблямі махаюць, аж трасуцца храпы...*

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

**P. S.** Летась выйшаў з друку новы аднатомны "Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы". Ён выправіў хібу ранейшага тлумачальнага слоўніка. У ім ужо зафіксаванае слова "арап" з значэннем "цёмнаскуры чалавек", негр (уст.).

***Культура мовы***

# ДА ЧАГО ВЯДЗЕМ?

Чарговая спроба вынішчэння нашай мовы ўяўляецца мне небяспечнай асабліва з адной прычыны: запанавалі калькі. З свайго досведу знаю, як цяжка часам падабраць адпаведнік звычайнаму навуковаму ці тэхнічнаму тэрміну. А калька — вось яна, падобная на роднае слоўца. *Бягучы год, рабочы дзень, вядучы спецыяліст, вядучая галіна навукі, бягучы радок...* І толькі, калі ўдумацца, жахнешся: моўныя пачвары! А якое выйсце? Што да першага і другога, то беларускія адпаведнікі вядомыя: *сёлетні год* або проста *сёлета; працоўны дзень*. Складаней з "*вядучым*". Гэтаму слову аўтары "Тэрміналагічнага слоўніка па вышэйшай матэматыцы для ВНУ" прапанавалі адпаведнік — *галоўны*. Калі гаворка, скажам, пра спецыяліста, то можна такога супрацоўніка назваць першым спецыялістам. Сэнс захаваны: ён усё робіць першым, пачынае, а за ім ідуць іншыя.

Такім жа чынам падбіраем адпаведнікі вайсковым тэрмінам. Прыкладам, ведущий самолет — першы самалёт (але не "вядучы", хаця б толькі таму, што ён нікога не вядзе). А ў "Русско-белорусском словаре для военных" ужо замацаваная калька: ведущий тральщик — вядучы тральшчык. Сюды ж, дзеля кампаніі, падстаўлена словазлучэнне ведущее колесо — вядучае кола. А яны ж толькі знешне падобныя, а значэнні маюць розныя. Тэхніцызм "ведущий" выкарыстоўваюць, калі трэба назваць частку машыны, прылады, якая перадае рух іншым часткам. "Ведущая ось" — гэта вось, якая перадае цягу, круціць колы, цягне, рухае машыну. Тут, мабыць, можна выбіраць з некалькіх варыянтаў: цягавая вось; вось-цягнік; вось-цягун (у "Беларуска-расійскім слоўніку" М. Байкова і С. Некрашэвіча *цягун* — гэта буксір). І фразеалагізм "ведущее колесо" (яно не перадае руху іншым часткам, а толькі круціцца, бо замацаванае на восі-цягуне) можна, мабыць, замяніць адным словам: цяг; цягун; цягавік (цяга; цягуна; цягавіца). Выбраць адпаведнае ці падказаць лепшае — гэта зробяць спецыялісты: шоферы, тэхнікі, інжынеры.

Шмат клопату будзе і з "бягучым радком". Звычайна ў такіх выпадках прапануюць мяняць кантэкст цалкам: радок, які бяжыць. Але гэты адпаведнік занадта грувасткі. Да таго ж, "бягучы радок" — гэта фразеалагізм, які стаў назвай, назоўнікам. І наўрад ці можна яго замяніць нечым падобным: плынны радок; дзейны радок. Такая прапанова супярэчыць вызначэнню нашай мовы, як дасканала распрацаванай. Нашыя прашчуры ўмелі знаходзіць трапнае слоўца. То і нам трэба шукаць.

Што такое радок, які бяжыць? Гэта чарада літараў, словаў, што рухаюцца на экране тэлевізара ці на спецыяльным экране, з якіх складаецца пэўны сказ, тэкст. Дык паспрабуем скамбінаваць так: чарада (ад якой чарод-ка) — чарадок. *Назва перадачы, праграма, інфармацыя падаецца чарадком.* Як гэта гучыць? Мабыць, не горш, чым "бягучым радком"?

Ды як казалі прашчуры, сем разоў адмер, і то не вер. То запытаемся ў мовазнаўцаў.

Пісаў калісьці Язэп Лёсік: "Трэба вытвараць новыя словы, новыя фразеалагічныя ды сінтаксічныя звароты. Да гэтае работы наша інтэлігенцыя выступіла з псіхалогіяй расійскае мовы, з расійскім думаннем, з расійскім, а часам і з польскім спосабам выкладання сваіх думак на пісьме...".

**Пятро ПАШКАВЕЦ.**

*(Заканчэнне будзе.)*

***Мікалай КРЫЎКО — беларушчына.***
***Алена ШЧУКА — англійшчына.***

## Слоўнік сінонімаў

**ПРАКЛЯСЦІ** (падвергнуць праклёну)*( Ілька): — І яшчэ я думаю, каб мы кінулі сваё валацужнае бруднае жыццё,.. і каб мы ўсе працавалі... Марта: — Калі ты зробіш так, цябе пракляне ўвесь род...* (Каваль). **СКЛЯСЦІ** *Кажуць нашы баркаўчане, што той сват, няначай крыху вядзьмак быў, бо ўсё так і сталася, як ён скляў* (Калюга), **ВЫКЛЯСЦІ** размоўнае *Стары Прусак, якога выкляў Бог і выракліся людзі, .. Убачыў неяк недарэчны сон* (Валасевіч). — *Незакончанае трыванне:* **Праклінаць, склінаць, выклінаць.**

**ПРАКЛЯТЫ** (такі, які заслугоўвае праклёну, бо чыніць зло, прыносіць непрыемнасць) — *Эх, Іван, Іван, праклятая вайна паламала ўсё...: — Лёля сціснула яго руку і замаўчала* (Алешка). *Камандзір дадаў: Навошта ж нам вяртацца назад у Дзісну праз гэтыя праклятыя балоты?* (Машара), **ВЫКЛЯТЫ** разм. *І маладых тапографаў узвод Спяшаўся вывучыць Ландшафт Карпатаў Або Мазурскіх выклятых балот* (Аўрамчык). *Ох, Богут, выклятае племя, Навошта гад такі жыве*! (Колас), **АКАЯННЫ** разм., лаянкавае *Ляці ж маё слова, далёка ў свет!.. і гукні ім: "Падохніце вы ўсе, акаянныя абдзіралы, крыўдзіцелі, каты, на радасць простых працоўных людзей!"* (Колас). *Шалелі завеі, Снягі бушавалі, Тут мерзлі шафёры на перавале І вецер і холад клялі акаянны* (Грахоўскі).

**ПРАКЛЯТЫ** Англ. адпаведнікі: **damned, cursed, accursed**. З двух марфалагічных варыянтаў cursed, accursed апошні належыць да кніжнай лексікі. А прыметнік damned мае шырокі ўжытак як-размоўная (часта лаянкавая) адзінка. (Параўнай бел.акаянны).

**ПРАКОС** (доўгая града скошанай травы) *Трава лёгка паддавалася і пакорна лажылася ў роўныя пракосы* (Колас), **ПАКОС** *Зноў шпарка захадзілі косы, кладучы пакос за пакосам* (Каваль), **РАД** дыялектнае *Глушачыха і Халімон нібы памаладзелыя, развярушвалі і разварушвалі копы, пераварочвалі рады* (Мележ).

**ПРАКТЫЧНЫ** (звязаны з рэальнымі патрэбамі, з прымяненнем, выкарыстаннем чаго-н.) *Яго даклад носіць практычны характар. Пытанне аб засваенні раслінай глебавай вуглекіслаты мае вялікае практычнае значэнне* ("Весці Акадэміі навук Беларусі"), **УТЫЛІТАРНЫ** (з назоўнікамі "характар", "прызначэнне", "мэта" і пад.: цалкам практычны) *Замак меў чыста ўтылітарнае прызначэнне і быў месцам, дзе насельніцтва хавалася на перыяд ваеннай небяспекі* ("Помнікі гісторыі і культуры Беларусі"). *Максім Багдановіч ставіць і вырашае праблему ідэйна-мастацкай вартасці паэтычных твораў і іх утылітарнай ролі для грамадства* (Майхровіч). — **Практычнасць, утылітарнасць.**

У гэтым выпадку ў англійшчыне знаходзім таксама два сінонімы, прычым абодва падобныя да беларускіх як семантычна, так і фармальна: **practical і utalitarian.** Абодва словы іншамоўнага паходжання, як і бел. сінонімы, і належаць да так званых інтэрлексем.

**ПРАЛЕЗЦІ** (з цяжкасцю, з намаганнем прайсці, прабрацца праз вузкую адтуліну, вузкі праход і пад.) *На лесвіцы і на балконе стоўпіліся госці, кожны хацеў пралезці наперад* (Пятроў), **ПРАЦІСНУЦЦА** узмацняльнае *Свірыд устаў, апрануў паліто і праціснуўся праз парадзелы натоўп да дзвярэй* (Дуброўскі), **ПРАПХНУЦЦА** разм., узмацн. *Сюды (на бойку) бягуць з усіх бакоў сябры — спрабуюць угаворваць... Ужо між іх прапхнуўся Жора, Ужо чуваць яго крыклівы І нудны голас...* (Бачыла), **ПРАШЫЦЦА** разм., узмацн. *Ганна прашылася да прылаўка і ўзяла адважаны хлеб* (Гартны), **ПРАТАЧЫЦЦА** разм., узмацн. *Ледзь пратачыўся праз натоўп*, **ПРАПЛІШЧЫЦЦА** разм., узмацн. *Праплішчыцца праз дзірку ў плоце. Пакуль Сомаў закідваў запасны лавок, яго бабёр траха не ўцёк: адцягнуў пярэднімі лапамі дзверцы і пачаў праплішчвацца вонкі* (Масарэнка). — *Незак.:* **Пралазіць, лезці, праціскацца і працісквацца, цiснуцца, прашывацца, шыцца, праточвацца, тачыцца, праплішчвацца, плішчыцца.** — Параўнайце: 1. П р а б і р а ц ц а.

**ПРАЛЕСКА** (травяністая расліна сямейства казяльцовых з сінефіялетавымі кветкамі, якія зацвітаюць адразу пасля раставання снегу) *Высыпалі раптам пралескі і адразу завязаліся на цвет* (Пташнікаў), **ПАДСНЕЖНІК** разм. *Мне ўсё мацней карціць пачуць Званочак срэбны ў паднябессі, Прыпільнаваць, калі чуць-чуць Падснежнік выгляне на ўзлессі* (Гілевіч).

**ПРАЛЁТ** (сезоннае перамяшчэнне птушак) *Іншыя вадаплаваючыя птушкі, як, напрыклад, лебедзі, гусі, крохалі і многія віды качак, у Беларусі паяўляюцца толькі на пралёце вясною і ўвосень* ("Геаграфія БССР"), **ПЕРАЛЁТ** *Яны (арнітолагі) з'ехалі на Амур, бо там пералёт пачаўся ўжо* (Караткевіч).

